# УВОДЗІНЫ

Падзелы Рэчы Паспалітай і ўключэнне тэрыторыі Беларусі і Літвы ў склад Расійскай імперыі азначалі пачатак новага перыяду ў іх гісторыі. Адной з характэрных яго рысаў з'яўлялася існаванне негатыўных адносінаў часткі насельніцтва гэтых тэрыторый, пераважна вышэйшага, прывілеяванага саслоўя, да самога факта ліквідацыі Рэчы Паспалітай, якая з'яўлялася для іх радзімай. Таму на працягу ўсяго перыяду знаходжання Беларусі і Літвы ў складзе Расійскай імперыі (1772–1917 гг.) на іх землях разгортваўся вызваленчы рух, які сваёй галоўнай мэтай ставіў аднаўленне падзеленай Дзяржавы.

Асобнае месца ў гісторыі Беларусі названага перыяду займаюць паўстанні 1794 г., 1830–1831 гг. і 1863–1864 гг. У савецкі час і гэтыя паўстанні, і ўвесь грамадска-палітычны рух у Беларусі і Літве ў першай палове XIX ст. разглядаліся выключна як *польскія*, што збядняла беларускую гісторыю і гістарыяграфію. Тагачаснае і сучаснае разуменне тэрмінаў *польскі* і *паляк* прынцыпова адрозніваюцца [гл. 4.2], таму спрошчаны падыход, які панаваў у савецкай гістарыяграфіі і характарызаваўся простым капіраваннем тэрміналогіі дакументаў першай паловы XIX ст. і накладаннем яе на сённяшнюю сітуацыю, супярэчыць прынцыпу навуковасці і не можа задавальняць даследчыкаў гісторыі Беларусі. Падобны падыход да ацэнкі дзейнасці ўраджэнцаў Беларусі і Літвы ў разгортванні вызваленчага руху збядняе іх ролю ў гэтай барацьбе. Апрача таго, марксісцкі падыход з ідэяй класавай барацьбы выразна прыніжаў ролю змагароў, якія паходзілі са шляхецкага саслоўя. Менавіта са шляхты рэкрутавалася пераважная большасць як удзельнікаў паўстанцкіх атрадаў розных гадоў, так і сяброў падпольных арганізацый 20–60-х гг. XIX ст. Без разумення прычын іх дзейнасці, асноўных сродкаў барацьбы і асэнсавання наступстваў немагчыма даследаванне больш позняга перыяду, калі пачалося фарміраванне беларускага (у сучасным сэнсе гэтага тэрміна) нацыянальнага руху і беларускай нацыі, у чым шляхта таксама прымала самы актыўны ўдзел.

Кожнае з вышэйзгаданых паўстанняў выклікала ў сваю чаргу іншую з'яву — эміграцыю пэўнай часткі яго ўдзельнікаў у З аходнюю Еўропу і іншыя часткі свету. Уласныя патрыятычныя перакананні і рэпрэсіўныя захады расійскіх уладаў не дазвалялі змагарам спыніць сваю барацьбу нават тады, калі іх ваеннае паражэнне станавілася фактам. У гэты перыяд айчыннай гісторыі палітычная эміграцыя атрымала сваё найбольшае (у параўнанні з часамі ВКЛ і Рэчы Паспалітай) развіццё.

Феномен палітычнай эміграцыі з Рэчы Паспалітай, і з ВКЛ у прыватнасці, звязаны з пачаткам змагання за незалежнасць дзяржавы, галоўным чынам супраць Расійскай імперыі, і пачынае развівацца з канца 1760-х гг. За перыяд з 1768 па 1815 гг. мелі месца некалькі хваль палітычнай эміграцыі з беларуска-літоўскіх губерняў:

1) *паслябарская*, звязаная з падаўленнем Барскай канфедэрацыі і правядзеннем першага падзелу Рэчы Паспалітай;

2) *трэцятравеньская*, выкліканая адменай Канстытуцыі 3 траўня 1791 г. і другім падзелам Рэчы Паспалітай;

3) *касцюшкаўская*, якая з’явілася пасля паражэння паўстання 1794 г. і ліквідацыі Рэчы Паспалітай;

4) *напалеонаўская*, звязаная з аднаўленнем польскай дзяржаўнасці ў выглядзе Герцагства Варшаўскага, створанага ў 1807 г. імператарам Напалеонам, спадзяваннямі на поўнае аднаўленне Рэчы Паспалітай і ваенным паражэннем напалеонаўскіх войскаў у кампаніі 1812 г. супраць Расіі.

Адносна ліберальны рэжым, які панаваў ва ўтвораным у 1815 г. Каралеўстве Польскім, ствараў магчымасці для вяртання на радзіму тых прыхільнікаў Напалеона, якія пакінулі яе пасля заняцця расійскімі войскамі земляў былога ВКЛ і Княства Варшаўскага. У эміграцыі засталіся толькі адзінкавыя асобы, напрыклад, Т. Касцюшка, які пасяліўся ў Швейцарыі пасля атрымання амністыі ад Паўла І і жыў тут да сваёй смерці ў 1817 г. [292].

У цэлым усе пералічаныя вышэй хвалі эміграцыі яднаюць некалькі рысаў. Па-першае, яны не былі шматколькаснымі. Радзіму пакідалі не больш за некалькі соцень асоб. Па-другое, яны не былі працяглымі: за рэдкім выключэннем эмігранты вярталіся на радзіму пасля некалькіх гадоў жыцця на чужыне. Эміграцыя пасля паўстання 1830–1831 гг. (паслялістападаўская) мела прынцыпова іншыя паказчыкі. Землі былой Рэчы Паспалітай пакінулі тысячы чалавек, прычым большая іх частка ўжо ніколі не вярнулася назад.

Уяўленне пра эміграцыю ўдзельнікаў паўстання 1830–1831 гг. як пра малазначны эпізод айчыннай гісторыі стала прычынай адсутнасці ў беларускай гістарыяграфіі асобных манаграфічных даследаванняў па гэтай тэматыцы. Як правіла, аўтары абмяжоўваліся толькі павярхоўным аглядам гісторыі эміграцыі. Тым больш не рабіліся спробы прасачыць дзейнасць ураджэнцаў Беларусі і Літвы ў эміграцыі. Іх звычайна залічвалі да ўсіх *польскіх* эмігрантаў і не цікавіліся своеасаблівасцямі іх становішча па-за межамі радзімы, а таксама ўзаемаадносінамі з ураджэнцамі ўкраінскіх зямель ці Каралеўства Польскага. Не звярталася ўвага і на той факт, што па-за межамі радзімы многія эмігранты развівалі свае навуковыя і літаратурныя здольнасці. Гэтаму садзейнічала адсутнасць у краінах, дзе жылі эмігранты, жорсткай цэнзуры, якая існавала ў Расійскай імперыі, а таксама даступнасць для іх лепшых еўрапейскіх цэнтраў вышэйшай адукацыі.

Хіба што не найбольш важнай праблемай пры даследаванні дзейнасці эмігрантаў з’яўляецца вызначэнне колькасці ўраджэнцаў Беларусі і Літвы, якія пасля паражэння паўстання пакінулі радзіму. Гэта важна таму, што ад колькасці самым непасрэдным чынам залежыць патэнцыял эміграцыі — фізічныі інтэлектуальны, — які яна ў выпадку патрэбы магла б выкарыстаць. З гэтым жа звязана праблема рассялення эмігрантаў па тэрыторыі Заходняй Еўропы і ўсяго свету ўвогуле, а таксама па тэрыторыі Францыі ў прыватнасці, паколькі там пасялілася пераважная большасць выгнаннікаў. Як гэта будзе паказана ніжэй, рассяленне ў пэўнай ступені ўплывала і на арганізацыйнае афармленне эміграцыі з Беларусі і Літвы.

Не менш істотным з’яўляецца пытанне самасвядомасці і самавызначэння ў эміграцыі ўраджэнцаў беларуска-літоўскіх губерняў. Тут неабходна адзначыць, якія тэрміны выкарыстоўвалі эмігранты для самаакрэслення і акрэслення сваіх суайчыннікаў, якую тэрыторыю яны лічылі сваёй айчынай. Гэтая праблема тым больш важная для беларускай гістарыяграфіі, што многія папярэднія польска- і рускамоўныя працы цалкам ігнаравалі рэгіянальныя своеасаблівасці прадстаўнікоў беларуска-літоўскіх губерняў у грамадска-палітычным руху першай паловы XIX ст. Гэтая традыцыя захавалася да сённяшняга дня. На працягу доўгага часу гісторыкі XX–XXI стст., пераймаючы тэрміналогію рускамоўных крыніц, створаных царскімі ўладнымі органамі, і афіцыйнай царскай гістарыяграфіі, паўстанне 1830–1831 гг. называлі *руска-польскай вайной, польскім паўстаннем* і г.д. Пры гэтым не рабілася спроба растлумачыць сэнсавае напаўненне тэрмінаў *польскі, паляк* і г. д., разуменне якіх мянялася на працягу стагоддзяў [25; 107]. Да гэтага часу айчынная гістарыяграфія шукае адказ на пытанне, кім жа лічылі сябе прадстаўнікі шляхты Беларусі і Літвы ў першай палове XIX ст. — *ліцвінамі* ці *палякамі*, хаця падобная пастаноўка пытання сама па сабе з’яўляецца некарэктнай.

Апрача таго, трэба мець на ўвазе той факт, што самаакрэсленне і самасвядомасць, а значыць, і супрацьпастаўленне сябе іншым, стварае патэнцыяльную глебу для з’яўлення супярэчнасцяў паміж рознымі групамі эмігрантаў. У дадзеным выпадку ўзніклі супярэчнасці паводле прынцыпу рэгіянальнага паходжання, а ўзаемадзеянне падобнага фактара з сацыяльнымі праблемамі можа выклікаць самыя розныя формы праяўлення. Наяўнасць разыходжання ў поглядах паміж ураджэнцамі зямель былога ВКЛ (*ліцвінамі*) з аднаго бокуі выхадцамі з Каралеўства Польскага (*караняжамі*) з другога не раз адзначалася гісторыкамі эміграцыі, але іх прычыны да гэтага часу заставаліся ў значнай ступені нераскрытымі. А гэта тым больш важна, што яны аказалі немалы ўплыў на стварэнне эмігрантамі з беларуска-літоўскіх губерняў некалькіх асобных арганізацый.

Адной з яскравых праяваў дзейнасці эмігрантаў з Беларусі і Літвы з’яўляюцца заснаваныя імі арганізацыі, праз якія яны намагаліся вырашаць свае праблемы і дасягаць сваіх мэтаў. Таварыства Літоўскае і Рускіх Зямель і створаны пры ім Літоўскі Вайсковы Камітэт, Таварыства Братэрскага Аб’яднання і Літоўска-Рускі Клуб — гэта тыя спробы арганізацыйнага афармлення *ліцвінаў* і *русінаў*, якія былі здзейснены імі ў *паслялістападаўскай* эміграцыі. Кожная з гэтых арганізацый займае сваё месца ў гісторыі *Вялікай эміграцыі* і ўнесла той ці іншы ўклад у яе дасягненні ці паражэнні, аднак як яны самі, так і мноства пытанняў, звязаных з іх дзейнасцю, працяглы час заставаліся невядомымі айчыннаму гісторыку.

Палітычная эміграцыя — гэта ні ў якім разе не бязмэтавае пражыванне на тэрыторыі іншых дзяржаў у чаканні лепшага лёсу і не свядомае жаданне ўліцца ў іншае грамадства, што характэрна, напрыклад, для эканамічнай эміграцыі. Мэтай прадстаўнікоў *Вялікай эміграцыі* быў працяг палітычнай барацьбы, у тым ліку праз узнаўленне ўзброенага паўстання, вынікам чаго

павінна стаць вызваленне айчыны і адраджэнне Рэчы Паспалітай. У сувязі з гэтым адна з найбольш важных задач эмігрантаў — данесці сваё слова да радзімы, занятай ворагам, каб перадаць звесткі пра сябе і аказаць ёй дапамогу ў арганізацыі барацьбы. З гэтай прычыны набывае немалую важнасць праблема ўплыву эміграцыі на грамадска-палітычны рух на радзіме і ацэнка ступені гэтага ўплыву.

Як вядома, пісьменніцкая і публіцыстычная дзейнасць з’ўлялася адным з асноўных відаў прапаганды і агітацыі, а значыць, і ідэалагічнай барацьбы ў цэлым. Для палітычнай эміграцыі якой бы то ні было хвалі гэта характэрна яшчэ ў большай ступені. Удзельнікі пацярпелай паражэнне барацьбы атрымалі значную колькасць часу і сіл, што ў сукупнасці са свежымі моцнымі ўражаннямі і эмоцыямі становіцца штуршком да актыўнай творчасці. *Вялікая эміграцыя* ў цэлым, і ўраджэнцы Беларусі і Літвы як яе частка, з’яўляецца хіба што не найбольш яскравым прыкладам гэтага. *Пасялістападаўскімі* эмігрантамі на працягу ўсяго часу іх жыцця па-за межамі радзімы было заснавана больш за 100 перыядычных выданняў, выдадзены тысячы кніг, брашур, улётак і да т. п., галоўнай мэтай якіх, проста ці ўскосна, было імкненне да гуртавання сіл дзеля вызвалення радзімы. І хаця многія творы далёкія ад эстэтычнай прыгажосці ці высокай якасці, але кожны з іх варты быць зразуметым у тым кантэксце, у якім ён з’яўляўся і функцыянаваў.

Нягледзячы на прыкладзеныя намаганні і шчырасць імкненняў, эміграцыі не ўдалося дасягнуць сваёй галоўнай мэты — хуткага ўзнаўлення паўстання на радзіме. Храналагічна блізкія рэвалюцыйныя падзеі на землях былой Рэчы Паспалітай адбыліся толькі падчас *Вясны Народаў* — у 1846–1849 гг., — ды і тыя былі падаўлены дзяржавамі, што здзейснілі яе *разбор*. Менавіта ў кантэксце такой вялікай працягласці эміграцыі, а таксама малой паспяховасці намаганняў падчас яе і неабходна разумець факт прыняцця некаторымі эмігрантамі палітычнай амністыі ад расійскіх уладаў, а яшчэ больш канкрэтна — ад расійскага імператара (Мікалая I ці Аляксандра II ), які асабіста даваў рэзалюцыю наконт кожнага падобнага прашэння. Даследаванне гэтай асаблівасці эміграцыі яшчэ практычна не праводзілася, аднак гэта тым больш важна, што амністыю выкарысталі некаторыя вядомыя дзеячы культуры Беларусі — Напалеон Орда, Аляксандр Рыпінскі і інш.

Усё вышэйсказанае пераконвае, што даследаванне жыцця і дзейнасці ўдзельнікаў паўстання 1830–1831 гг. у З аходняй Еўропе з’яўляецца неабходным для айчыннай гістарыяграфіі і выступае перспектыўным накірункам навуковых распрацовак.

Гэтая манаграфія базуецца на дысертацыі на атрыманне ступені кандыдата гістарычных навук, абароненай аўтарам 15 красавіка 2008 г. у Інстытуце гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Ніжняя храналагічная мяжа эміграцыі — дата яе пачатку — 1831 год. Вызначэнне верхняй мяжы выклікае большую складанасць. Пры абсалютызацыі гэтага крытэрыя яна можа быць вызначана як дата смерці апошняга з эмігрантаў (паводле наяўных звестак, гэта 1909 г.), аднак падобны падыход будзе

з'яўляцца некарэктным. У гэтай манаграфіі верхняя храналагічная мяжа — 70-я гг. XIX ст., калі скончылася пісьменніцкая дзейнасць часткі эмігрантаў, якія дажылі да таго часу.

Для адбору асобаў, дзейнасць якіх даследавана ў манаграфіі, ужываліся тры крытэрыі:

1) нараджэнне асобы на тэрыторыі адной з пяці заходніх губерняў Расійскай імперыі: (Віленская, Гродзенская, Мінская, Віцебская, Магілёўская);

2) удзел у паўстанні 1830–1831 гг. на землях былой Рэчы Паспалітай;

3) пераход асобы пасля паражэння паўстання ў краіны Заходняй Еўропы ў 30-х гг. XIX ст.

Іншыя крытэрыі (этнічнае ці сацыяльнае паходжанне, веравызнанне, прафесійныя заняткі і да т. п.) не ўжываліся.

У сувязі з абранымі крытэрыямі ў манаграфіі не аналізуецца дзейнасць тых асобаў, якія паходзілі з беларуска-літоўскіх губерняў і знаходзіліся ў эміграцыі, але не прымалі ўдзел у паўстанні 1830–1831 гг. (Адам Міцкевіч, Валенты Ваньковіч, Леанард Ходзька і інш.). Аднак некаторыя з іх згадваюцца ў кантэксце даследавання эміграцыйнага жыцця.

Мэтазгодна прывесці тлумачэнні некаторых ужытых у манаграфіі тэрмінаў. У першую чаргу варта падаць дэфініцыю тэрміна *эміграцыя*. Пад гэтым тэрмінам разумеецца перасяленне са сваёй айчыны ў іншыя краіны па эканамічных, палітычных, рэлігійных і іншых прычынах. У гэтай манаграфіі вядзецца размова пра эміграцыю па палітычных матывах. Тэрмін *пасялістападаўская эміграцыя* ўспрыняты з польскай гістарыяграфіі. Ён ужываецца ў адносінах да той хвалі эміграцыі, пачатак якой дало паражэнне паўстання 1830–1831 гг. — *лістападаўскага*. Пад тэрмінам *беларуска-літоўскія губерні* разумеюцца адміністрацыйна-тэрытарыяльныя адзінкі (губерні), у адносінах да якіх у 1831 г. ужываліся тапонімы *Беларусь* і *Літва*: Віленская, Віцебская, Гродзенская, Магілёўская і Мінская губерні. Галоўнай прычынай злучанага ўжывання гэтага тэрміна (*беларуска-літоўскія*), а не асобнага (*беларускія і літоўскія*), з'яўляецца адсутнасць у 1831 г. дакладна акрэсленай мяжы паміж геаграфічнымі абшарамі *Беларусь*і *Літва*.

**Дзмітрый Матвейчык**